# Голас Радзімы

№ 42 (2132)
19 кастрычніка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Жыве ў вёсцы Цынцавічы, што на Вілейшчыне, стары майстар, якога ведаюць не толькі ў сваёй старане. Вырабленыя Міхасём Сільвановічам адмысловыя і зручныя кошыкі з лазы разышліся па блізкіх і далёкіх вёсках, па мястэчках і гарадах Беларусі. Іх з задавальненнем набываюць для хатняй гаспадаркі як вяскоўцы, так і гараджане. А лёгкія і прыгожыя маленькія кошыкі, якія таксама робіць майстар, — гэта сапраўдныя творы мастацтва.

НА ЗДЫМКУ: Міхась СІЛЬВАНОВІЧ са сваімі вырабамі.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

У ГАЛОЎКОСМАСЕ СССР

## НАЗВАНЫ КАНДЫДАТЫ

У адпаведнасці з камерцыйным пагадненнем аб сумесным савецка-аўстрыйскім пілатуемым касмічным палёце (праект «Аўстрамір») у Савецкім Саюзе праведзены завяршальны этап адбору двух аўстрыйскіх кандыдатаў у касманаўты. Імі сталі грамадзяне Аўстрыйскай Рэспублікі Клеменс Лоталер і Франц Фібек.

Клеменс Лоталер, па прафесіі ўрач-анестэзіёлаг, нарадзіўся ў 1963 годзе ў Вене, пасля завяршэння вучобы ў медыцынскім інстытуце служыў у арміі. Цяпер працуе ў хірургічным аддзяленні адной з венскіх клінік.

Інжынер-электратэхнік па адукацыі Франц Фібек нарадзіўся ў 1960 годзе ў Вене. Пасля завяршэння вучобы ў інстытуце працаваў у кампаніі «Сіменс», цяпер значыцца асістэнтам на кафедры вымяральнай тэхнікі Венскага тэхнічнага універсітэта.

АКЦЫЯ МІЛАСЭРНАСЦІ

## НЕ ХЛЕБАМ АДЗІНЫМ...

Цяпер у Беларусі пражывае больш за 50 тысяч пенсіянераў і інвалідаў, чый дастатак пакідае жадаць лепшага. З мэтай аказання ім дапамогі прынята сумеснае рашэнне калегіі Міністэрства сацыяльнага забеспячэння БССР і прэзідыума Беларускага аддзялення Савецкага фонду міласэрнасці і здароўя—аб правядзенні акцыі міласэрнасці.

У ходзе яе будуць комплексна абследаваны бытавыя ўмовы грамадзян, сабраны добраахвотныя ахвяраванні, арганізавана бясплатнае харчаванне для адзінокіх пенсіянераў і інвалідаў, пройдуць Дні адкрытых дзвярэй у дамах-інтэрнатах.

Але не хлебам адзіным жывы чалавек. Акцыя міласэрнасці адкрылася дабрачынным Тыднем выяўленчага і музычнага мастацтва. Цэнтрам яго стаў Дзяржаўны мастацкі музей БССР, дзе разгорнута дабрачынная выстаўка вядомай мастачкі Наталлі Паплаўскай. Тут жа адбудзецца цыкл экскурсій і лекцый для інвалідаў і членаў іх сямей, выхаванцаў дзіцячых дамоў.

У кастрычніку і лістападзе ў Полацку, Баранавічах і Магілёве будзе працаваць перасоўная дабрачынная выстаўка «Беларускае мастацтва».

У ШТАБ-КВАТЭРЫ ААН

## СУСТРЭЧЫ Ў РУСКІМ КЛУБЕ

Клуб рускай кнігі ў штаб-кватэры ААН—традыцыйнае месца знаёмстваў жыхароў Нью-Йорка з дзеячамі савецкага мастацтва. У гэтым годзе ў дні работы 44-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у клубе адбыліся дзве сустрэчы, на якіх выступілі госці з Беларусі.

З вялікім поспехам прайшоў канцэрт з удзелам заслужанай артысткі БССР Валянціны Пархоменкі.

Выступіў у клубе і рэжысёр-пастаноўшчык кінастудыі «Беларусьфільм» Віктар Дашук.

Гледачы, сярод якіх былі дэлегаты 44-й сесіі, супрацоўнікі Сакратарыята ААН, прадстаўнікі эмігранцкіх арганізацый цёпла сустрэлі фільмы беларускага рэжысёра «Лявоніха—душа ласкавая» і «Не плачце аба мне», з цікавасцю азнаёміліся з выстаўкай фатаграфій і кніг аб жыцці Беларускай ССР.

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ




У Мінску ў выставачным павільёне Гандлёва-прамысловай палаты БССР прайшла міжнародная выстаўка «Персанальныя камп'ютэры». Сваю прадукцыю прадстаўляюць 92 фірмы з 16 краін свету. Асобную экспазіцыю складалі камп'ютэры Беларускага навукова-вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі і Навукова-даследчага інстытута вылічальнай тэхнікі.

НА ЗДЫМКУ: экспазіцыя польскай фірмы «Метронекс».

КАНТРАКТЫ

## БАБРУЙСКІЯ ШЫНЫ

Машыны яшчэ адной капіталістычнай краіны «абуюцца» з дапамогай шыннікаў з Беларусі. Кантракт на пастаўку шын для дарожнай і сельскагаспадарчай тэхнікі ў ЗША заключылі прадстаўнікі фірмы «Гэнс Таер» і вытворчае аб'яднанне «Бабруйскшына». Гэта самае буйное пагадненне, падпісанае ўласнай знешнегандлёвай фірмай аб'яднання. Цяпер яна вядзе экспартна-імпартныя і тавараабменныя аперацыі з 25 краінамі свету, з іх 12—капіталістычныя.

Асвоіўшы вытворчасць яшчэ чатырох тыпапамераў шын, аб'яднанне значна павялічыць колькасць сваіх гандлёвых партнёраў. Абмяркоўваецца таксама пытанне выпуску шын па савецкай тэхналогіі на амерыканскіх прэс-формах.

РЭЛІГІЙНЫЯ ДЗЕЯЧЫ



У рамках супрацоўніцтва з Беларускім камітэтам абароны міру ў Мінску знаходзілася група рэлігійных дзеячаў з Цэнтра імя Джона Т. Конера амерыканскага штата Індыяна на чале з дырэктарам Цэнтра Яго Прападобнасцю доктарам Донам Нідам. У праграме знаходжання было знаёмства з беларускай сталіцай, наведанне мемарыяльнага комплексу «Хатынь», сустрэчы з рэлігійнымі дзеячамі рэспублікі ў Мінскім епархіяльным упраўленні.

НА ЗДЫМКУ: з рэлігійнымі дзеячамі з ЗША ў Кафедральным саборы гутарыць сакратар Мінскага епархіяльнага ўпраўлення протаіерэй Іаан ХАРАШЭВІЧ.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## ВЯРТАННЕ ДА ГІПАКРАТА

Малыя Саша Дамброўскі з Брэста і віцябчанін Саша Асташэнка сталі першымі пацыентамі адзінай пакуль у Беларусі гамеапатычнай амбулаторыі. У новай медыцынскай установе ім назначаны поўны курс лячэння бранхіяльнай астмы. Неабходны набор лекаў, сярод якіх у асноўным настоі, адвары, сокі лячэбных траў, бацькі без цяжкасці набылі тут жа, у спецыяльнай аптэцы.

— Не нашкодзь—асноўны прынцып нашай работы і з дзецьмі, і з дарослымі,—гаворыць загадчык гасразліковай гамеапатычнай амбулаторыі Уладзімір Прахарэнкаў.—Індывідуальны падыход да кожнага, хто звяртаецца за дапамогай, дазваляе максімальна берагчы ўнутраную экалогію чалавека.

Віцебск па праву лічыцца ў рэспубліцы цэнтрам нетрадыцыйных метадаў лячэння. Мясцовыя спецыялісты паспяхова развіваюць розныя іх напрамкі: ад гамеапатыі і голкаўколвання да магнітатэрапіі і электраакупунктуры.

ПЛАНТАЦЫЯ НА МХАХ

## ЗА ЖУРАВІНАМІ — БУЯКІ

Дзесяць гадоў назад Акадэміяй навук БССР створана ў Ганцавіцкім раёне доследна-эксперыментальная база па вырошчванню журавін. З ЗША былі дастаўлены саджанцы буйнаплодных журавін «Мак Фарлін», «Асцівенс», «Хавес». Па саставу біялагічных рэчываў яны адрозніваюцца ад балотнай ягады тым, што ўтрымліваюць больш цукру, а плады растуць на прамастаячых парастках, што аблягчае ўборку ўраджаю машынным спосабам. Пералічаныя сарты маюць розныя тэрміны паспявання, ураджай іх у некалькі разоў вышэйшы за дзікарастучыя. Цяпер на плантацыях буйнаплодных журавін вырошчваюцца не толькі ягады, але і чаранкі.

Збор ураджаю журавін на доследна-эксперыментальнай базе механізаваны. Паміж радамі журавін рухаецца камбайн (падобны на зерневы). Шлёпаючы металічнымі рашоткамі на вадзе, ён утварае хвалі, якія збіваюць ягады з раслін. Яны ўсплываюць наверх і трапляюць у ягадныя зборшчыкі-кантэйнеры.

Цяпер вучоныя Цэнтральнага батанічнага сада Акадэміі навук БССР распрацоўваюць тэхналогію вырошчвання другой вельмі каштоўнай ягады—буякоў, якія ў народзе яшчэ завуць дурніцамі.

ДЗЕЛАВОЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ВЫГАДНА АБОДВУМ БАКАМ

Цэлую калекцыю інкруставаных шкатулак і куфэркаў накіраваў калектыў фабрыкі мастацкай інкрустацыі ў Італію на выстаўку савецкіх тавараў. Удзел у ёй з'явіцца шырокай рэкламай беларускіх сувеніраў, якія карыстаюцца вялікім попытам за мяжой. Зрэшты, ужо сёлета на прадпрыемстве прадугледжана выпусціць прадукцыі на экспарт на 300 тысяч рублёў. Партнёрамі жлобінскіх інкрустатараў пажадалі стаць гандлёвыя фірмы Францыі, Італіі, Канады, ЗША, Польшчы і Чэхаславакіі.

Такое дзелавое супрацоўніцтва выгаднае абодвум бакам. Прадпрыемства-пастаўшчык, у прыватнасці, атрымае на свой рахунак больш за 40 працэнтаў вырučанай валюты. А гэта, у сваю чаргу, дазволіць набыць сучаснае абсталяванне, карэнным чынам абнавіць і пераабсталяваць вытворчасць.

УРАДЖАЙ-89

# УПЭЎНЕНАСЦЬ, ПАЦВЕРДЖАНАЯ РАЗЛІКАМІ

У гэтым годзе надвор'е было падобна на капрызную нявесту. У заходніх абласцях вялікія дажджы прывялі да палягання збажыны, а ў такіх раёнах таварнай вытворчасці збожжа, як Паўднёвы Урал, Казахстан, Сібір, усё «згарэла» ад засухі. І ўсё ж краіна атрымае збожжа значна больш, чым у мінулым годзе. Чаму такая ўпэўненасць?

Па-першае, у шэрагу рэгіёнаў надвор'е не падвяло: у Краснадарскім краі, напрыклад, сабралі ў сярэднім па 40 цэнтнераў, а на Кубані—па 50 цэнтнераў збожжа з гектара. Па-другое, тэхналагічная перабудова збожжавай гаспадаркі, якая вядзецца апошнія 3—4 гады, дазволіла ў нейкай ступені кампенсаваць страты. Па 35 цэнтнераў з гектара сабралі на Украіне, што на 6 цэнтнераў больш за мінулы год. Такую ж прыбаўку атрымалі ў Беларусі і Цэнтральнай чарназёмнай зоне Расіі. У Стаўрапольскім краі, Растоўскай вобласці наблізіліся да 30 цэнтнераў з гектара.

Іншымі словамі, без хлеба краіна не застанецца. І хлеб будзе больш высокай, чым раней, якасці, што таксама варта аднесці на кошт інтэнсіўных тэхналогій.

Каб зацікавіць гаспадаркі ў далейшым нарошчванні вытворчасці збожжа, Савет Міністраў прыняў рашэнне ў 1989—1990 гадах плаціць за здадзенае звыш сярэдняга ўзроўню мінулай пяцігодкі (1981—1985 гады) збожжа валютай. Дакладней, інвалютнымі рублямі. Тона цвёрдай і моцнай пшаніцы ацэнена ў 60 інвалютных рублёў (каля 90 долараў), зернебабовых і алейных культур—ад 80 да 90 інвалютных рублёў. Гэта ніжэй за цэны сусветнага рынку, але толькі на першы погляд. Справа ў тым, што цана вызначана з улікам вылікаў дзяржаўных падаткаў і іншых расходаў, якія бяруцца з савецкіх экспарцёраў пры вывазе іх тавараў.

Атрыманыя валютныя сродкі гаспадаркі маюць права расходаваць паводле свайго меркавання: на тэхніку, тэхналогіі, абсталяванне для перапрацоўкі і захоўвання сельскагаспадарчай прадукцыі, на тавары народнага спажывання і г. д. Выйсці на знешні рынак, знайсці замежных партнёраў яны могуць ці па сваіх каналах (прамыя кантакты савецкіх прадпрыемстваў і арганізацый з заходнімі фірмамі сёння вітаюцца), ці праз адпаведныя арганізацыі Міністэрства знешнеэканамічных сувязей, якія дапамогуць ім падабраць партнёраў, дадуць экспертную ацэнку кан'юнктуры сусветнага рынку.

Валютнае стымуляванне здачы звышпланавага збожжа не азначае адмовы ад імпарту. У 1989 годзе ніякіх скарачэнняў не было, усе кантракты па закупцы збожжа за рубяжом рэалізаваны. Што ж тычыцца планаў будучага года, то тут канчатковае слова павінен сказаць савецкі парламент пры абмеркаванні бюджэту краіны.

Аднак павелічэнне вытворчасці збожжа можа аказацца дарэмным, калі ў СССР не будзе вырашана праблема яго захавання. У 1989 годзе сітуацыя склалася вельмі цяжкая, асабліва там, дзе сабралі добры ўраджай. На Стаўраполлі, напрыклад, аказаліся перагружанымі практычна ўсе хлебапрыёмныя пункты. Сотні тысяч тон збожжа сабраліся на таках у Нечарназемнай зоне: для іх вывазу не хапала транспарту. Многія цэнтралізаваныя элеватары перапоўнены, і частку збожжа даводзіцца захоўваць побач з імі пад плёнкамі і брызентам.

Цяпер часта можна чуць сцвярджэнні, што з вырашэннем праблемы захоўвання могуць справіцца толькі замежныя партнёры. Але, улічваючы маштабы краіны, думаю, што рабіць стаўку толькі на заходнія фірмы не варта. Разлічваць трэба перш за ўсё на ўласныя сілы і патэнцыял. Але любы міжнародны вопыт, любая прапанова аб узаемавыгадным супрацоўніцтве будзе з задавальненнем прынята і разгледжана. Ужо праведзены папярэднія перагаворы з шэрагам фірм ЗША аб стварэнні сумесных прадпрыемстваў па выпуску невялікіх збожжасховішчаў, якія будуць будавацца непасрэдна ў месцах сельскагаспадарчай вытворчасці. Гэтае ж пытанне абмяркоўвалася на сустрэчы з прадстаўнікамі афіцыйных і дзелавых колаў Канады.

Савецкі бок гатовы прадаставіць прамысловую базу, забяспечыць металам, электраэнергіяй, рабочай сілай і да т. п. Замежным партнёрам прапануецца забяспечыць сумесныя прадпрыемствы абсталяваннем і тэхналогіямі. Частка гатовай прадукцыі пойдзе на савецкі рынак, частку замежныя партнёры могуць рэалізаваць паводле свайго меркавання на рынках трэціх краін. Зразумела, што гэта толькі папярэдняя схема: канчатковыя ўмовы залежаць ад далейшых перагавораў. Галоўнае, каб супрацоўніцтва было ўзаемавыгадным.

Аляксандр ЖОЛАБАЎ,
першы намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення дзяржаўных інспекцый Дзяржаўнай камісіі Савета Міністраў СССР па харчаванню і закупках.

# ЭТНАГРАФІЧНЫЯ НАТАТКІ ПІСЬМЕННІКА

# КАРАНІ

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 38, 40, 41).

Апраналіся ж некалі ў сваё, не крамнае! І калі ішла замуж дзяўчына, то мела поўную скрыню самаробнага адзення і палатна. А бяднейшая мела ўсяго бодню з палатном — бочачку такую з двума вушкамі!.. Дык вось. Сабяруцца дзяўчаты на зборню, хлопцы прыімчаць, і дзе тут ужо да тае работы — пачнуць танцаваць, весяліцца. Іншая дзяўчына і пачынка не напрадзе за вечар. Пагаляваць жа, гэта значыць, пажартаваць трэба. Зборні ў Моталі былі на кожнай вуліцы або ў кожным так званым квартале. Кварталаў тых было многа — Турубэль, Мараўлятніца, Лука Першая, Лука Другая, Потышча, Коржыўка, Выгон, Місто... А напярэдадні Новага года, Крашчэння, Вялікадня, Спаса ладзіла моладзь кануны. Канун — гэта ўжо вялікае гулянне.

Вольга Мацукевіч помніць кануны канца шасцідзесятых гадоў. Яны хоць былі і мала падобныя на колішнія, але таксама збіралі нямала моладзі. Цяпер не тое. Ні канунаў, ні зборняў не праводзяць у Моталі. Затое ўжо колькі гадоў існуе ў вёсцы народны фальклорна-этнаграфічны тэатр — «Мотальскія суседзі». Стварыўся ён выпадкова. Аднойчы запрасілі тутэйшых спявачак на свята вёскі. Яно ўдалося, усе былі задаволены, і жанчыны з таго дня сталі пастаяннымі ўдзельнікамі мастацкай самадзейнасці. Праз нейкі час вырас у Моталі і свой тэатральны калектыў. Туды прыйшлі і хлопцы, і дзяўчаты, і музыканты. Тры гады ўсяго мінула, а паспелі выступіць у Іванаве, Маларыце, Лунінцы, Пінску, Брэсце, Мінску. Збіраюцца «Мотальскія суседзі» і ў Кіеў. Іх запрасіў да сябе Саюз мастакоў Украіны. Маецца ў хуткім часе адбыцца і паездка ў Маскву на ВДНГ.

Цяпер у фальклорна-этнаграфічным тэатры каля трыццаці самадзейных артыстаў. Гэта механізатары, пенсіянеры, спецыялісты калгаса, культасветработнікі. Самы стары з іх — Кузюр Іван. Яму восемдзесят гадоў. Але так іграць на барабане, як ён, у Моталі ніхто не можа. А Любоў Бабрыковіч? Яна і артыстка, і пявуння, і танцорка. Голас мае прыгожы, моцны. А Ліда Райкевіч? Маці васьмярых дзяцей, на пенсіі даўно, а заспявае — кожны пазайздросціць. Лепшая салістка тэатра. У яе, як тут кажуць, добры тур, тэга значыць, другі голас. Яна завядзе, дасць усім тон, а Люба падвядзе, — то песня на ўвесь Моталь чутна. Ну а самы малады выканаўца— Эдзік Водчыц. Яму семнаццаць споўнілася, слесар у калгаснай майстэрні. Працуе добра. Але і пяе добра, і танцуе выдатна. Артыст!

Вольга Мацукевіч дадае:

— Вось не сказала пра гумарыста нашага, Рамановіча Івана. У ім нібы д'ябал які сядзіць. Усё можа. Як прафесіянал, хоць і аграномам працуе. Варта яму выйсці на сцэну і сказаць хоць пару слоў—зала ад смеху ажно кладзецца. У ім усё артыстычнае — і голас, і міміка, і сам выгляд...

V

Усё ж не магу не нагадаць пра мотальскія кажухі, пра якія ўпаміналася вышэй. Гэтае традыцыйнае адзенне палешукоў выраблялася вясковымі ўмельцамі з даўніх часоў. Да нашых дзён дайшоў іх мотальскі крой (як мужчынскіх, так і жаночых) і спосаб вырабу аўчын па-мотальску. Вось што расказаў мне Іван Сямёнавіч Палто, адмысловы гарбар і кравец, расказаў, як ён мовіў, гісторыю мотальскага кажуха.

— Пажылыя маталяне яшчэ помняць гарбарню старога яўрэя Выгоды. Яна была ў нас бы маленькі заводзік. Працавала там усяго некалькі чалавек. Выраблялі аўчыны, верхні тавар на боты. Т[illegible] і кажухі шылі, слава пра [illegible] далёка адсюль разыходз[illegible]ся. А тут вайна. Яўрэяў усіх пабілі фашысты. Але кажухі патрэбны і потым былі. Мы з бацькам падумалі і рызыкнулі ўзяцца за тую справу. Бо зямлі мелі ўсяго гектар з н[illegible]. Аднак нялёгка і кажушн[illegible] быць. І сіла патрэбна, калі аўчыны вырабляеш, і часу шмат траціш, калі за шытво сядзеш. Але што рабіць было? Сям'я! І кожны есці хоча... Праўда, у мяне яшчэ адна спецыяльнасць была — пчаляр. Пнёў дзесяць трымаў. Аднак ад кляшча паратунку не знайшоў, хімікаты папярок тае дарогі сталі, і пчолы звяліся. А тут мода на дублёнкі пайшла. Прыехалі з Масквы карэспандэнты, сфатаграфавалі, у часопіс «Савецкі Саюз» напісалі — і не толькі ў мяне пайшло. Амаль увесь Моталь стаў кажухамі займацца. Звычайна мы вырабляем аўчыны так званым хлебным квасам. А гэта вось што. Бярэцца два кілі аўсянай мукі і чатырыста грамаў солі на аўчыну. Усё гэта разводзіцца ў вадзе. У тым «квасе» і вытрымліваюцца аўчыны дзён 15—20, пакуль не дойдуць. Тады вымаюцца, скрабуцца, размінаюцца, чысцяцца і ў новы раствор кладуцца. У дубільнік. Там яны таксама тыдні два-тры ляжаць. Кару дубовую альбо адвараю, альбо таўку і пылам тым аўчыны перасыпаю. Тут ужо солі не трэба. Нарэшце аўчына гатова. І тады пачынаецца не менш цяжкае. Трэба і фасон падабраць, і крой зрабіць, і пашыць. Шыю і машынаю, і ўручную. Калі як мае быць вырабіць аўчыны і акуратна пашыць, то кажух будзе ноські — гадоў дваццаць паслужыць. А калі ўсё нашарман, то праз пару гадоў паляціць... Заробак? Некалі ўсяго пяць рублёў за пашыў кажуха бралі. Цяпер—да паўсотні даходзіць. І ці за тры дні пашыеш тую ж дублёнку? Можна, праўда, і за дзень. Але тады ўжо якасць не тая... Ну, а дублёначка спраўная, каб у людзі выйсці не сорам было, каштавацьме рублёў чатырыста, не меней. Таму нашы пенсіянеры, каторыя час маюць, і цяпер займаюцца і гарбарствам, і пошывам. Праўда, у маладых да гэтага душа не хінецца. А шкада. Патрэбнае рамяство з гадамі можа і зусім знікнуць.

VI

Каб не рваліся карані, якія сілкуюць людскую памяць, каб повязь дня сённяшняга з днём учарашнім была трывалай, у Моталі стварылі ажно тры музеі. Ініцыятарам гэтай добрай справы былі тадышні партыйны сакратар, цяпер пенсіянер Пятро Пташык ды старшыня калгаса — Балюк.

— Пачалі са стэндаў,— тлумачыў мне Пташык.— На іх вырашылі падаць гісторыю Моталя. Афармілі ў Доме культуры адпаведны пакой. Назвалі яго так: Музей баявой і працоўнай славы калгаса «40 год Кастрычніка». У нас з'явіўся як бы новы цэнтр выхаваўчай работы. Настаўнікі праводзілі тут урокі па гісторыі. Яго наведвалі шматлікія дэлегацыі, экскурсіі... Потым старшыня калгаса выказаў думку пабудаваць у вёсцы сапраўдны музей. Балюка падтрымалі. Узвялі прасторнае памяшканне. І назвалі яго Музей народнай творчасці. У ім — шэсць выставачных залаў, у якіх пададзена шмат чаго з гісторыі Моталя, а таксама прадметы народнага ўжытку—вырабы з лазы, саломы, дрэва, узоры ткацтва, вышыўкі, музычныя інструменты, якімі карысталіся некалі на Палессі, іншыя цікавыя рэчы. Пры музеі — рытуальны пакой для прыёму ў піянеры, камсамол, для правядзення рэгістрацыі шлюбу, уручэння ўзнагарод калгасным перадавікам... Побач з Музеем народнай творчасці адкрылі яшчэ адзін — Музей хлеба. Ён у памяшканні звычайнага ветрака, якіх некалі нямала было паблізу вёскі. Вятрак-музей пабудаваў наш зямляк, Аляксандр Мацукевіч... Неўзабаве Моталь будзе ўключаны ў турыстычны маршрут. Мы ўжо ў сваю чаргу паклапаціліся, каб турысты змаглі ў нас і адпачыць, і набыць арыгінальны сувенір. Адкрыем «Пакой гарбаты», наладзім выпечку мотальскіх біблікаў з пшаніцы, змолатай у ветраку-музеі. А сувеніры будуць вырабляць вясковыя ткаллі. Гэта могуць быць вядомыя мотальскія ручнікі, настольніцы, каляровыя посцілкі на канапу ці крэсла, розныя сурвэткі... Вось яшчэ пра што варта сказаць. Неяк да нас прыехала Марыя Гарупа — сакратар райкома партыі. Паглядзела на ўсё гэта і нібы жартам сказала: «У вас толькі літаратурнай гасцёўні бракуе!» Мы падумалі-падумалі і вырашылі: а чаму б і не? Узяліся за справу. Набылі мэблю, партрэты пісьменнікаў, кнігі. І вось у цэнтральным Доме культуры ўжо такая гасцёўня працуе. У ёй дзве залы — беларускай літаратуры і рускай. Ёсць камін, радыёмагнітола, піяніна. У гасцёўні можна пасядзець за самаварам, адпачыць, паслухаць музыку, выступленні гасцей — нашых пісьменнікаў, артыстаў... А хіба абыдзеш маўчаннем нашу школу мастацтваў? Спачатку ў вёсцы была толькі музычная школа. Але вось з Мінска прыехала да нас Святлана Сырапушчанская і пачала ў школе выкладаць маляванне, стала навучаць нашых дзетак прыкладному мастацтву — займацца лясной скульптурай, разьбой па дрэву, інкрустацыяй саломкаю. Мінула не так многа часу, і Мотальская школа мастацтваў заваявала аўтарытэт, мае цяпер два філіялы — у саўгасе імя Паліўкі і калгасе «Перамога».

VII

Этнаграфічныя нататкі пра Моталь і маталян былі б няпоўнымі, калі б не сказаў, як тут шануюць найвялікшую спадчыну — народныя звычаі, духоўны свет продкаў сваіх. Я маю на ўвазе свята Каляд, карані якога ідуць у глыб стагоддзяў, недзе ажно ў часы язычніцтва.

...Позні вечар. Мы сядзім з гаспадаром у добра нацепленай хаце, і я слухаю спакойны аповяд Балюка пра тое, як будзе выглядаць Моталь у бліжэйшыя гады, якія змены адбудуцца ў калгасе, што новае прыйдзе ў палескае сяло. Адчувалася, Уладзімір Іванавіч жыве ўсім гэтым даўно, жадае як найхутчэй наблізіць сваю мару.

Раптам у акно моцна пастукалі. Пачуўся і тупат у сенцах. Расчыніліся дзверы, і парог пераступіла мо з дзесяць кабет. Яны прынеслі з сабою пах свежага снегу, зімовага ветру і нейкі незвычайны святочны настрой. Тая, што ў чорным кажушку з белай аўчыннай аблямоўкай, на здзіў звонкім голасам павяла:

**— Я палола буракі**
**Пад зялёным дубам.**
**Палюбіла старшыню**
**З кучаравым чубам!..**

— Каляднікі! — падхапіўся з крэсла Балюк і растлумачыў:

— Даяркі. З трэцяй брыгады.

І ступіў насустрач, уражаны прыемнай нечаканкай.

А каляднікі нібы і не заўважылі нікога ў хаце — стараліся як найлепей павіншаваць гаспадара з гаспадыняй, як найболей дабра і шчасця пажадаць ім. Словам, спявалі традыцыйныя Калядкі, перасыпаючы іх смехам, жартамі.

Колькі ва ўсім гэтым было прыязнасці!

Якая магія слова!

Выйшла з пярэдняй Надзея Аляксееўна, жонка старшыні, сказала:

— То хопіць, жанчынкі, распранайцеся, праходзьце, за стол сядайце, гасцьмі будзеце.

Тая, што «палола буракі», раптам узяла ды і змяніла пласцінку:

— Э-эх! Я ж заўтра выхаднуха!..

Ступіла з гурту і зноў на здзіў звонкім голасам павяла:

**— Нешта ў горле дырамчыць, дырамчыць.**
**Трэба яго прамачыць, прамачыць...**



А з кухні ўжо ішла Хвядоса Ніканаўна, маці Уладзіміра Іванавіча, несла пузаценькі графінчык каляднага пітва, закусь. Для кабет гэта было найлепшым сігналам, найлепшай камандай. Хуценька распрануліся — і за шырокім сталом ідзе ўжо звычайная размова. Але гэта ненадоўга. Варта было прыгубіць чаркі, узяць трошкі на зуб любліваға сала ці вантрабянкі, як зноў усчалася гамана, пачуліся песні, то весела-імклівыя, то раздумна-тужлівыя. А тады насуперак усяму з'явілася «Вішня беласнежная», за ёю — «Ой, мароз, мароз...»

І якраз у тую хвіліну Хвядоса Ніканаўна запыталася:

— А хто з вас будзе механоша?

— А мы так, без мяхоў! — адказала тая, байчэйшая.— У саміх дабра поўныя хаты!..

Хвядоса Ніканаўна не сунімалася:

— Тады дзе «Каза» ваша?

— Згубілі! — у адзін голас адказалі кабеты.— Калі да Бабрыковіча, загадчыка фермы, заходзілі.

Яны зноў прыгубілі каляднага пітва і падняліся.

Пачулася знаёмая ўсім песня:

**— Бывайце здаровы,**
**Жывіце багата.**
**А мы ўжо паедзем**
**Дадому, дахаты...**

Развітанне было шчырым і цёплым.

Я тады падумаў: не кожны старшыня калгаса можа пахваліцца такой павагай да сябе.

**Яраслаў ПАРХУТА.**



**НА ЗДЫМКАХ: ёсць чым падзяліцца вопытным ткачыхам (злева направа) Вользе ПТАШЫЦ, Марыі КУЛЬБЯДЗЕ, Ніне МАЦУКЕВІЧ; за кроснамі Вольга ПТАШЫЦ.**

## *РУССКИЙ ЧЕЛОВЕК В ЭСТОНИИ*

# ОЩУЩЕНИЕ ТРЕВОГИ

За время моей последней поездки в Эстонию судьба сводила меня с Игорем Бородиным (45 лет) дважды: заочно и очно. Сначала в разгар августовской забастовки части предприятий с преобладанием работников некоренной национальности прочитал его фамилию в газете под обращением к жителям республики. Игорь, как секретарь парткома научно-производственного объединения «Электротехника», вместе с другими руководителями предприятия разъяснял подлинные мотивы забастовки, опровергал неправомерные обвинения. Авторы обращения убеждали, что ни они, ни рабочие не хотят разваливать экономику, не хотят бастовать. Они не раз пытались демократическим путем довести до законодателей республики свою точку зрения о новых законах о языке и выборах в местные Советы, но не были услышаны. Поэтому пришлось прибегнуть к крайней мере.

А встретились мы с Игорем, когда напряжение шло на убыль, забастовка приостановлена, а в резиденции местных властей вступил в свои права долгожданный диалог. Но секретарь парткома, обозвав себя стагнатом (уже 7 лет руководит партийной организацией почти в 700 человек), еще был во власти пережитого. Говорил горячо, темпераментно, с болью за себя и товарищей по объединению.

— В нашей республике создалась ситуация политической неразберихи, взаимных обид и обвинений,—сказал секретарь.—За то, что часть русскоязычного населения «посмела» выступить за равные права с коренными жителями, ее обзывали и экстремистами, и оккупантами, и мигрантами, и разрушителями республиканской экономики, и бог знает кем еще. Это может подействовать на чьи угодно нервы, выбить из колеи.

По тону размышлений чувствовалось, что Игорь давно ищет ответы на терзающие его вопросы о судьбе своего предприятия, его работников и своей собственной. Но не всегда их находит. Сложность положения налицо. «Электротехника» развилась на базе завода, созданного еще в прошлом веке для обслуживания железной дороги, пришедшей в тогдашний Ревель—ныне Таллинн. Объединение—одно из крупнейших в республике—4 500 работающих. Подчиняется союзному министерству, выпускает продукции на 70 миллионов рублей в год. Обеспечивает полупроводниковыми приборами и преобразовательными устройствами почти 5 000 потребителей по всей стране. Непосредственно на Эстонию приходится примерно двадцатая часть объемов в виде товаров народного потребления. В объединении высокий процент русскоязычных работников—с учетом научно-исследовательского института эстонцы составляют 18—19 процентов, а по головному предприятию и того меньше—около 9.

Многие представители некоренного населения отдали своему объединению годы, вложили в его развитие немало труда и таланта и, естественно, связывают с предприятием свое будущее. В таком положении и Игорь Бородин. Приехал в Таллинн 23 года назад, начал учеником слесаря, вырос до начальника цеха, после чего предложили перейти на партийную работу. Он остро переживает наметившиеся в коллективе разногласия. Партком изучил ситуацию в коллективе. Опрос 750 работников показал, что действия интердвижения, движения зеленых и Объединенного совета трудовых коллективов, куда в основном входят предприятия союзного подчинения, одобряют от 59 до 71 процента опрошенных. Достаточно высок и авторитет парткома, за который высказались 53 процента. Бородин подчеркивает, что эстонцы больше тяготеют к Народному фронту Эстонии. Но несмотря на политическое размежевание, и партком, и руководство коллектива стремятся, чтобы это не сказывалось на производстве, добиваются слаженности и ритмичности. Даже последствия забастовки—благодаря существенному заделу в производстве—оказались незначительными, отчисления в бюджет республики сделаны в полном объеме.

Я спросил у Бородина, только ли введение ценза оседлости, предусмотренное в законе о выборах в местные Советы, побудило трудящихся объединения остановить работу. Секретарь парткома ответил, что это была лишь последняя капля, переполнившая чашу терпения. Забастовка зрела давно. Размежевание по национальному принципу началось, по мнению Бородина, еще в прошлом году, а апогея достигло с принятием законов о языке и выборах. В них не учтены мнения и интересы меньшинства некоренного населения, содержатся дискриминационные меры по отношению к ним. А поскольку в республике не выработан механизм учета интересов меньшинства, то существует опасность принятия и последующих законов исключительно в интересах коренного населения.

— В разумных стремлениях лидеров Народного фронта и депутатов высшего органа власти республики к большей самостоятельности, суверенитету, республиканскому хозрасчету нет ничего такого, чего бы мы, коммунисты, не поддержали,—говорит Игорь Бородин.—Но после некоторых экстремистских лозунгов и выпадов против «пришлых» людей некоренное население озабочено своим положением, своим будущим. Единственное, к чему мы стремимся, — это равенство всех населяющих республику граждан, чтобы при волеизъявлении эстонского народа не ущемлялись права представителей русского и других народов. Особенно меня беспокоит то, что размежевание по национальному признаку, разрыв десятилетиями сложившихся связей наносит ощутимый ущерб коммунистическому движению в республике, авторитету Компартии Эстонии. Мы стараемся делать все, чтобы не ослабить Компартию республики, не доводить до раскола по национальной принадлежности ее членов.

Понимают ли в Эстонии озабоченность некоренного населения? Многие—да. Секретарь ЦК Компартии Эстонии Микк Титма, например, сказал в беседе со мной, что действия людей, входящих в Объединенный совет трудовых коллективов, в защиту своих интересов логичны и что с этими коллективами можно найти общий язык и компромисс. Вместе с тем он убежден, что процесс национального пробуждения эстонцев, повышения статуса эстонского языка требует от некоренного населения адаптации к местным условиям и коренной ломки психологии. А дается это нелегко. В долгой беседе с Игорем Бородиным мы коснулись многих проблем, волнующих лично его и трудящихся объединения. И честно могу сказать: ни в одной фразе собеседника не промелькнуло и тени неприязни к эстонскому народу. По его мнению, интересы трудящихся коренной национальности и русскоязычного населения совпадают. Курс надо держать не на размежевание, не на противостояние эстонских и русскоязычных депутатов в Верховном Совете республики—надо делать шаги навстречу друг другу, стремиться к единству, устранить дискриминационные положения закона о выборах.

Пока же многим некоренным жителям в Эстонии неуютно. Растущее национальное самосознание эстонцев, говоря словами Микка Титма, неминуемо рождает и национальную эстрему. Ограничить ее влияние можно лишь консолидацией всех сил, выступающих за перестройку. На это нацелены решения Пленума ЦК КПСС по межнациональным проблемам. На этой позиции стоит и партийный секретарь из Таллинна Игорь Бородин.

**Дмитрий ГАЙМАКОВ.**




**Оригинальная роспись украсила фасады домов, выходящих на одну из центральных улиц Витебска (на снимке). Это горькая память об уникальных творениях рук человеческих, которые унесло не только время. К сожалению, в древнем городе немного осталось памятников архитектуры. В числе сохранившихся — старинная ратуша (справа), имеющая долгую историю строительства, восходящую к XVIII веку. Теперь идет реставрация здания.**

**Фото В. МЕЖЕВИЧА, В. ШУБЫ.**

## НОВОЕ МЫШЛЕНИЕ И МОЛОДЕЖЬ

# ИЗ ДЕТСКОГО САДА—НА ПЕНСИЮ

С точки зрения социологии молодежь — это люди в возрасте от 15 до 22 лет, в своей массе еще не имеющие законченного образования, профессии, собственного жилья, семьи и, что особенно важно подчеркнуть, не имеющие устойчивого мировоззрения. Именно последняя характеристика и лежит в основе большинства молодежных проблем. Остро реагирующая на все события, мобильная, обычно избавленная от забот о хлебе насущном, молодежь представляет собой идеальное «горючее» для любого двигателя, и поэтому важно, кто находится «у руля».

В нашем обществе отношение к молодежи двойственное: с одной стороны, это стремление как можно дольше удержать ребенка «в манеже», поскольку родителям так спокойнее, с другой — бесконечные попреки в инфантильности и безответственности (слово «родители» в данном случае употребляется как в прямом, так и в переносном смысле). Идеалом почти любого родителя является сын или дочь, повторяющие его теперешний (взрослый) образ жизни. «Родители» в переносном смысле тоже хотят сохранить свой авторитет, свою власть, быть образцом. Уже давно никого не шокирует понятие «молодой писатель» (художник, ученый), которому уже сорок лет. Более того, в Союзе писателей СССР, например, нет ни одного писателя комсомольского возраста. Почти то же самое происходит и в остальных творческих союзах. Но особенно тревожно то, что за редким исключением людей комсомольского возраста до последнего времени не было и среди руководства ВЛКСМ. Словом, почти до тридцати лет значительная часть молодежи находится как бы в положении воспитанников детского сада.

Правда, многих из них это устраивает: ведь когда нет ответственности, нет соответственно и спроса. И тут срабатывает другая сторона отношения к молодежи: «мы в ваши годы уже...» Правильно, роль молодежи в революции, в войне, в освоении целины переоценить трудно. Но тогда молодость считалась преимуществом, а не недостатком, который «с годами пройдет».

Естественным и печальным следствием этого двойственного отношения стало «окостенение комсомола», появление рокеров, панков, металлистов и т. д. Причем давно известно, что сугубо запретительными мерами можно лишь загнать вглубь и без того плохо контролируемые процессы. Резкое ограничение продажи алкоголя вызвало всплеск наркомании и токсикомании. И ведь подвержены этим порокам в основном подростки и молодые люди. А что можно им предложить, кроме дискотеки и видеоклуба? Театр? Не хватает воспитания или скучно. Кино? Но западные видеофильмы гораздо занимательнее. Клубы по интересам? Они и для взрослых, привыкших преодолевать всевозможные бюрократические рогатки, сплошь и рядом остаются недостижимой мечтой. Результат — появление множества неформальных объединений. От безобидных до социально опасных.

Все три компонента воспитания: образовательное, нравственное и физическое—давно уже находятся в плачевном состоянии. Уровень знаний перестал быть критерием жизненного успеха, карьеры, оплаты труда. Значение диплома о высшем образовании девальвировалось. С другой стороны, люди, получающие большие деньги за тяжелый, неквалифицированный труд, вовсе не заинтересованы ни в его модернизации, ни в перестройке вообще. Отсюда и вывод: «честно много не заработаешь» или «вкалываю на полную катушку — имею право на свои деньги жить красиво». При этом, во-первых, «красивую жизнь» каждый понимает по-своему, во-вторых, срабатывает феномен социальной скуки. В основе хулиганства, между прочим, лежат бескультурье и озлобление.

По данным ЮНЕСКО, мы занимаем 25-е место в мире по уровню образования. В среднем индивид тратит в год 7 рублей на книги. Еще три года назад на периодические издания тратили примерно столько же. Сейчас, естественно, больше. Но хотя сегодня в принципе можно читать все, что угодно, «некалорийность» информационного обеспечения молодежи сохраняется. Шкала духовных ценностей стремительно падает вниз, и если мы еще сильно отстаем от Америки в области материальной, то в области духовной уже идем «голова к голове». Слабое, конечно, утешение. Но ведь должен же быть выход.

А выход из этой ситуации просматривается. Например, перестать считать молодежь «недоумками» и выпустить ее «из манежа». Параллельно необходимо создать комплексную систему воспитания: просвещение — этика — эстетика — физическая культура. Дать возможность любому человеку заниматься любым видом спорта — треть «взрывоопасного» контингента будет «при деле». Дать возможность подросткам и молодежи самим зарабатывать хотя бы минимум и самим же решать, на что тратить заработанные деньги: на новые джинсы или на издание за свой счет сборника собственных произведений. Бумаги хватит, особенно если сократить отчетно - руководящую документацию того же комсомола. Дать молодежи самой выбирать лидера из своей среды: по крайней мере, не будет ситуаций, когда во главе комсомольской организации находится трижды проверенный и четырежды утвержденный во всех инстанциях товарищ.

Речь идет не о вседозволенности. Речь идет о том, что нужно ориентироваться на производство личности — творца, а не очередного «винтика», хотя это, разумеется, неудобно для сложившейся «взрослой» системы. Но новое мышление требует немало мужества.

**Светлана БЕСТУЖЕВА,**
**кандидат исторических наук.**

# ТУТ ВЕСЕЛА ДЗЯТВЕ





**Цэнтрам прыцягнення для дзятвы Баранавічаў стаў гарадскі Дом культуры. У народным ансамблі танца «Лялькі», ансамблі бальнага танца, лялечным тэатры, дзіцячым оперным у цікавых справах праводзяць вольны час больш за паўтары тысячы школьнікаў. Хлопчыкі і дзяўчынкі часта выступаюць перад равеснікамі, без юных артыстаў у горадзе не абыходзіцца ніводнае свята. Выязджаюць яны з канцэртамі і ў іншыя гарады.**

**НА ЗДЫМКАХ: многа вясёлых прадстаўленняў падрыхтаваў для дзятвы лялечны тэатр. Нядаўна яму прысвоена званне «народны»; у праграме ўзорнага дзіцячага хору «Кантылена», якім кіруе Барыс КАЖЭЎНІКАЎ, творы Глюка, Моцарта, Пергалезі, Бартнянскага і іншых кампазітараў. Цяпер калектыў рыхтуецца да гастрольнай паездкі ў Францыю; Сярожа ЯСЬКОЎ (справа) і Ваня КАЛЯЧКА з дзіцячага opернага тэатра «Казка».**

**Фота Э. КАБЯКА.**



# ВЕЧНАЯ ЗОРКА ДЛЯ ЧАЛАВЕЦТВА

*Да 175-годдзя з дня нараджэння М. ЛЕРМАНТАВА*

Лермантаву, які загінуў у няпоўныя 27 гадоў, сёння спаўняецца 175. Збыліся многія яго прароцтвы. Праясніліся паэтычныя намёкі і прадказанні. Стала бясспрэчным: Лермантаў не проста апярэдзіў свой век — ён апярэдзіў яго вельмі намнога. Апярэдзіў нямала думак вядомых сучасных літаратараў. Прадбачыў тое, што не змаглі ўсвядоміць яго сучаснікі-філосафы — і ў Расіі, і па-за ёю. І сёння, у дні юбілею, лермантаўскія радкі чытаюцца як самае сапраўднае адкрыццё.

Яго біяграфія кароткая, але выразная. Яна, бадай, неаддзельная ад творчасці. Рана застаўся без бацькоў. Рана адчуў сваё трагічнае адзіноцтва. Яшчэ ў дзяцінстве ўражвае ён сваімі выключнымі здольнасцямі, асабліва ў літаратуры і жывапісе. Але менавіта дараванне перашкаджае яму скончыць Маскоўскі універсітэт — з-за сутыкненняў з недалёкімі прафесарамі.

Затым школа юнкераў і прывілеяваны лейб-гвардыі гусарскі полк. Сталіца. Забавы. Першае знаёмства з арыстакратычнай чэрню, з крывадушшам і нізкапаклонствам прыдворнай эліты.

За вершы, напісаныя на смерць Пушкіна, яго ссылаюць на Каўказ. У гэтых вершах ён кляйміць «жадную толпу, стоящую у трона», — галоўную віноўніцу трагедыі вялікага паэта. «Жадная толпа» адказвае па-свойму. Маладога афіцэра пасылаюць пад кулі горцаў.

Ён змагаецца храбра, здзіўляючы нават бывалых каўказскіх [illegible]ранаў. А ў вольны час і[illegible] вершы. У Пецярбург вяртаецца ўжо вядомым паэтам, але паэтам няскораным, які па-ранейшаму ставіцца з пагардай да рабалепнай прыдворнай знаці.

Ён высмейвае ў эпіграмах усёмагутных вяльмож ён дзёрзкі нават з самымі блізкімі сваякамі цара. Яго «железный стих, облитый горечью и злостью», не ведае літасці. І хмары над галавой Лермантава пачынаюць згушчацца. За дуэль з сынам французскага пасла яго другі раз ссылаюць на Каўказ. Дуэль — усяго толькі прычына. Лермантаў не мог адмовіцца ад яе, як афіцэр і дваранін, да таго ж яна скончылася бяскроўна. Аднак прычына для таго, каб расквітацца, знойдзена. Цар Мікалай, які ненавідзеў паэта, злавесна жадае яму «шчаслівай дарогі».

Лермантаў называе сябе «плодом среди цветов». Ён ведае, што «раньше начал» і «кончит ране». У сваім праграмным вершы «Парус» ён заклікае да буры, аддаючы перавагу ёй у параўнанні з сумным і рабскім існаваннем. Ён не здрадзіў сваім поглядам. Ён не схіліўся. І таму шлях яго спыніўся ля падножжа Машука. Жыццё Лермантава абарвалася на дуэлі 27 ліпеня 1841 года. І з гэтага дня пачынаецца яго бяссмерце.

Усе тайнікі душэўнага жыцця Лермантава адкрываюцца ў яго вершах і паэмах. Што тычыцца прозы, то яе называюць не інакш, як «благоуханной». Уплыў прозы Лермантава зведалі на сабе такія майстры рускай літаратуры, як Талстой, Дастаеўскі, Чэхаў, Горкі.

Тое, што ён паспеў стварыць, ставіць яго ў адзін рад з вялікімі творцамі ў сусветнай літаратуры. Вядомы дацкі крытык Георг Брандэс, які не прымаў лірызму, забыўшыся аб сваім ранейшым акадэмічным стылі, прысвячае Лермантаву некалькі сапраўды паэтычных старонак. Ён называе Лермантава «Праметэем новага часу». «Якім мастаком,— піша Брандэс,— быў ён, гэты дэман у чалавечым абліччы, які яшчэ хлопчыкам зрабіўся мужчынам і памёр юнаком, стварыўшы цэлы шэраг твораў вечнага значэння».

Першы савецкі нарком асветы А. Луначарскі сцвярджаў, што Лермантаў «па прыгажосці», па вытанчанасці сваіх мелодый стаіць, бадай, нават вышэй за Пушкіна і, ва ўсякім выпадку, не мае сабе роўных». Гэта сцвярджэнне небеспадстаўнае. Шведскія спецыялісты ў галіне верша пасля доўгіх даследаванняў робяць вывад, што вершы Лермантава па прыгажосці гучання — лепшыя ў рускай паэзіі.

Пісьменнік Д. Меражкоўскі назваў Лермантава «ночным светилом русской поэзии». Месячнае ззянне лермантаўскіх вершаў па-ранейшаму пранікае ў душы і сэрцы.

Ён любіў Радзіму, «но странною любовью». Ён сумна глядзеў на сваё пакаленне. Ён чуў гукі, невядомыя іншым. Разумеў размовы, значэнне якіх «темно иль ничтожно». Ён не паспеў даспяваць сваю песню, сказаць сваё апошняе слова. Але чым далей ідуць гады, тым больш гучная недапетая песня, тым ясней тое нясказанае слова. Такія паэты нараджаюцца толькі раз. Каб стаць вечнай зоркай для чалавецтва.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

*ФАКСІМІЛЬНАЕ ВЫДАННЕ «НАШАЙ НІВЫ»*

# ДЛЯ КОЖНАЙ СЯМ'І

**Мінскае выдавецтва «Навука і тэхніка» рыхтуе факсімільнае выданне «Нашай Нівы». З гэтай нагоды некалькі пытанняў да яго намесніка галоўнага рэдактара Зміцера СЯНЬКО.**

*— Як узнікла ідэя перавыдання «Нашай Нівы»?*

— «Наша Ніва» — гэта першая масавая беларуская дэмакратычная газета. Вакол яе гуртаваліся ўсе прагрэсіўныя нацыянальныя сілы таго часу. Газета мела велізарнае значэнне ў станаўленні самасвядомасці беларусаў, была па сутнасці сцягам адраджэнскага руху. Нездарма і сам перыяд нацыянальнага адраджэння пачатку XX стагоддзя называецца «нашаніўскім кругабегам».

Сёння «Наша Ніва»—гэта выдатны помнік гісторыі і культуры Беларусі. Але захаванасць яго надзвычай кепская. Дастаткова сказаць, што ніводная бібліятэка рэспублікі не мае камплекта газеты. Вельмі шмат дэфектных нумароў, і стан іх увесь час пагаршаецца. Карацей кажучы, становішча катастрафічнае. Калі не зрабіць неадкладных захадаў цяпер, дык гадоў праз дзесяць можа быць позна.

Да таго ж ідэі і задачы нацыянальнага адраджэння нашаніўскага перыяду шмат у чым актуальныя і сёння, а таму такое выданне мае і практычнае значэнне. Усё гэта і паўплывала на рашэнне выдавецтва «Навука і тэхніка» ўзнавіць «Нашу Ніву».

*— Як будзе выглядаць гэтае выданне?*

— «Наша Ніва» выйдзе ў шасці кнігах (прыблізна па 800 старонак кожная) пад цвёрдай вокладкай. Памер іх цалкам адпавядае фармату арыгінала. Два першыя выпускі запланаваны на 1990 год. Адзін з іх будзе змяшчаць нумары газеты за 1906—1908 гады, а другі — за 1909 год. Паколькі спачатку «Наша Ніва» выходзіла паралельна лацінскай і кірыліцкай графікай, а з 1912 года— толькі кірыліцай, для перавыдання мы скарыстоўваем кірыліцкі варыянт.

*— У кім вы бачыце патэнцыяльных чытачоў «Нашай Нівы»?*

— Выданне разлічана на шырокае кола чытачоў. Мяркую, што яно павінна быць у кожай сям'і, дзе жыве або адраджаецца беларускі дух. Дарэчы, у шэрагу іншых факсімільных выданняў яно параўнальна таннае. Выдавецтва свядома пайшло на гэта, каб зрабіць яго даступным практычна для кожнага.

**Пра выданне «Нашай Нівы» і ўмовы падпіскі на яе — у аб'яве, якая змешчана на апошняй старонцы газеты.**

# ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ, ПРА БЕЛАРУСАЎ, НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ!




З ГІСТАРЫЧНАГА ЗАБЫЦЦЯ, З ЗАБАРОНЫ І ЗАНЯПАДУ «НАША НІВА» ВЫВЕЛА НА БЕЛЫ СВЕТ БЕЛАРУСА-ІНТЭЛІГЕНТА, БЕЛАРУСА-ПАТРЫЁТА, БЕЛАРУСА - ПАЛІТЫКА. «НАША НІВА» — ЛЕТАПІС НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ, ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ВЫЗВАЛЕНЧАГА РУХУ БЕЛАРУСАЎ.

## У «НАШАЙ НІВЕ»:

— развагі і думкі пра нацыянальны, сацыяльны, эканамічны і палітычны шлях беларускага народа Антона Луцкевіча, Лявона Гмырака, Сяргея Палуяна, Аляксандра Уласава;

— залаты фонд беларускай паэзіі — вершы Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Альберта Паўловіча;

— класічная проза Максіма Гарэцкага, Ядвігіна Ш., Якуба Коласа, Змітрака Бядулі;

— «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага;

— артыкулы пра беларускую этнаграфію, тэатр, фальклор;

— партрэты забытых дзеячаў Беларусі: Сымона Канарскага, Адама Кіркора, Яна Баршчэўскага;

— шматлікія допісы з народнага жыцця — з месцаў і вёсак тагачаснае Беларусі;

— змаганне з расійскімі чарнасоценцамі і паланізатарамі ў карэспандэнцыях «Аб мові ў касьцеле», «Не падзяліліся», «Якая палітыка патрэбна для Беларусі»;

— крышталізацыя мовы; беларуская мова лацінскімі літарамі;

— цікавыя звесткі з усяго свету;

— парады па гаспадарцы, беларуская кухня;

— беларускі гумар;

— матэрыялы на любы густ і любы ўзрост.

Рэдактары-выдаўцы: Аляксандр Уласаў, Антон і Іван Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Янка Купала.

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» ПЛАНУЕ АЖЫЦЦЯВІЦЬ ГЭТАЕ ВЫДАННЕ Ў ШАСЦІ ВЫПУСКАХ НА ПРАЦЯГУ 1990—1994 ГАДОЎ. АПОШНІ ВЫПУСК БУДЗЕ ЗМЯШЧАЦЬ КАМЕНТАРЫІ, ПАКАЗАЛЬНІКІ І ІНШЫ ДАВЕДАЧНЫ МАТЭРЫЯЛ. АРЫЕНЦІРОВАЧНЫ КОШТ УСЯГО ВЫДАННЯ 30 РУБЛЁЎ. ПРЫ АФАРМЛЕННІ ПАДПІСКІ ЎНОСІЦЦА ЗАДАТАК У СУМЕ 3 РУБЛІ.

ЗАМЕЖНЫЯ ЧЫТАЧЫ МОГУЦЬ ПАДПІСАЦЦА НА ГЭТАЕ ВЫДАННЕ ПРАЗ КНІГАГАНДЛЁВЫЯ ФІРМЫ, ЯКІЯ ЗАЙМАЮЦЦА РАСПАЎСЮДЖВАННЕМ САВЕЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ.

Foreign readers are invited to send their orders for this edition to any book-selling firms dealing in Soviet literature.

ФАКСІМІЛЬНАЕ ВЫДАННЕ ГАЗЕТЫ ГАРАНТУЕ ПОЎНУЮ ЗАХАВАНАСЦЬ ТЭКСТУ!

ДЛЯ НАС, НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ І ЎНУКАЎ:
БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА «НАША НІВА» —
ПОВЯЗЬ У НЕПАРЫЎНЫМ ЛАНЦУЖКУ ПАКАЛЕННЯЎ!

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# АСІГНАЦЫІ Ў ШКЛОВЕ

У гады першай сусветнай і грамадзянскай войнаў на тэрыторыі Беларусі ў розных гарадах выпускаліся свае папяровыя грошы. Вядомыя такія выпускі ў Гомелі і Лідзе, Гродне і Рагачове, Ігумені (Чэрвень) і Слуцку, Колышках (Віцебская губерня) і Бабруйску. Грошы выпускаліся не толькі гарадскімі ўладамі, але і гандлёвымі абшчынамі, рэўкомамі, сталовымі, магазінамі, кааператывамі, фабрыкамі і іншымі арганізацыямі. Напрыклад, такімі, як Палеская чыгунка. Выпускі гэтыя — дзяржаўныя і прыватныя — амаль усе апісаны ў каталогах і вядомыя беларускім баністам (боны — папяровыя грошы, што выйшлі з ужытку). Але ёсць папяровыя грошы, выдадзеныя на тэрыторыі Беларусі, аб якіх калекцыянеры-баністы амаль нічога не ведаюць і якіх не маюць у сваіх калекцыях. Некаторыя звесткі пра іх можна атрымаць з кнігі С. Тучкова «Рускі быт XVIII стагоддзя». На старонках гэтага выдання аўтар расказвае, што ў канцы XVIII стагоддзя ў Шклове выдаваліся папяровыя грошы, так званыя асігнацыі.

Менавіта ў канцы XVIII стагоддзя ў ваколіцах гэтага беларускага гарадка пасяліўся генерал Зорыч. Выхадзец з Сербіі, генерал С. Зорыч служыў у Расіі ў гусарскім палку. У[illegible]ьнік руска-турэцкай в[illegible]і, генерал Зорыч вылучыўся ў некалькіх бітвах. У адным баі ён трапіў у турэцкі палон. Пасля вяртання ў Расію ён служыў у лейб-гусарскім эскадроне, наблізіўся да двара Кацярыны II, хутка зрабіў кар'еру фаварыта. Гэты поспех нядоўга спадарожнічаў генералу, і ён быў звольнены са службы. Пасяліўшыся ў сваім маёнтку ў Шклове, Зорыч разгарнуў бурную гаспадарчую дзейнасць. Пабудаваў некалькі фабрык — канатную, гарбарную, палатняную, шаўковых тканін і іншыя. Менавіта тады і з'явілася ў Шклове «вынаходка» Зорыча — яго ўласныя грошы — асігнацыі. У Расіі выпуск асігнацый быў пачаты пры Кацярыне II у 1769 годзе, так што гэта не было ўласным вынаходствам генерала, гэта былі дзяржаўныя папяровыя грошы, а Зорыч выпусціў прыватныя грошы. З'яўленне асігнацый Зорыча ў Шклове адносіцца да таго перыяду яго жыцця, калі пасля смерці Кацярыны II ён быў выкліканы на нядоўгую службу да імператара Паўла I.

Што ж уяўлялі сабой гэтыя прыватныя асігнацыі? Гэта былі невялікія друкаваныя паперкі, на якіх указана цана ад 5 да 100 рублёў. Іх ахвотна прымалі ў Шклове ўсе крамнікі, купцы і дзелавыя людзі. Пасля смерці Зорыча па гэтых асігнацыях было выплачана больш грошай, чым па вэксалях. Гісторыя не захавала нам гэтых асігнацый, бо яны былі знішчаны пасля іх выпуску. І калекцыянерам даводзіцца задавальняцца толькі іх апісаннямі.

Леў КОЛАСАЎ.

## Спорт

Упершыню ў нашай краіне праводзяцца прафесіянальныя спаборніцтвы тэнісістаў — турнір «Вірджынія слімз». Многія мацнейшыя спартсменкі свету прыехалі ў Маскву.

Спачатку прайшлі папярэднія спаборніцтвы ў групе слабейшых. Па іх выніках усяго толькі чатыры тэнісісткі падключыліся да кагорты мацнейшых, сярод якіх і беларуская спартсменка Наталля Зверава. Пасля пачаўся галоўны турнір. Наталля Зверава дайшла да фіналу, дзе ў напружанай барацьбе ўступіла амерыканцы Г. Мейджэрс.

На сусветным юніёрскім першынстве па гандболу, якое завяршылася ў Лагасе, у рашаючым матчы за «золата» сустрэліся спартсмены СССР і Паўднёвай Карэі. Напружаны матч выйграла наша каманда з лікам 26:23.

У складзе зборнай Савецкага Саюза выступала і мінчанка Наталля Аверчанка.

Ужо на пачатку першынства краіны па спартыўнай хадзьбе ў Еўпаторыі нарадзіўся рэкорд Еўропы. Яго ўстанавіла брэстаўчанка Вольга Кардапольцава на дыстанцыі 20 кіламетраў.

Наогул, на турнірах і першынствах Савецкага Саюза вельмі ўдала выступалі ў апошні час беларускія спартсмены.

Так, перамогай пяцібор цаў нашай рэспублікі над вельмі моцнымі калектывам з Масквы завяршыўся камандны чэмпіянат краіны. І ў асабістым заліку галоўны прыз дастаўся прадстаўніку нашай каманды — А. Смірнову.

Парадавалі футбалісты мінскага «Дынама». У паўфінале розыгрышу Кубка футбольнага саюза яны перамаглі аднаклубнікаў Масквы з лікам 2:1.

Па-ранейшаму моцныя барцы Беларусі. Мурманск прымаў удзельнікаў розыгрышу Кубка СССР па класічнай барацьбе. Першае месца заняла зборная Мінска.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 1180